Верасень 2010 г.

МАГІЛЁЎСКАЯ ВОЛЬНАЯ ГАЗЕТА

# зБАЖына

АБ’ЯДНАНЫ СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ВЫДАННЯЎ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

## З Юбілеем, сябры!

# Пакліканне і лёс



**Не знаю, ці супала б гэта так шчасліва і трывала ў маім жыцці, калі б абставінамі часу і ўласным выбарам не выпала мне ўдача аказацца ў ліку заснавальнікаў Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ). Тут справа не ў далучанасці да выдатнай заснавальніцкай кагорты (хаця гэта прыемна), а ў тым -- што нарадзілася ў выніку іхнай высакароднай змовы супраць сыстэмы (якая таксама яшчэ толькі нараджалася). Але якая для пранікнёных калегаў і прадбачлівых палітыкаў тады ўжо, напачатку 90-х, выявілася знакам цывілізацыйнай, культурніцкай, гуманітарнай і маральнай небяспекі. Тут справа ў іхным калектыўным вынаходстве і агульным дзіцяці – у БАЖы, незалежным, вольным, смелым згуртаванні журналістаў і тых, хто прыняў рашэнне абараняць іх і спрыяць ім у працы.**

**Здаецца, ці даўно было гэта... Гледзячы што мець на ўвазе – гісторыю краіны ці адрэзак уласнага жыцця. Для гісторыі гэта, безумоўна, толькі маленькая прыступка. Не надта вялікі адрэзак часу гэта і ў жыцці чалавека. Але ж і гісторыя як такая, а тым больш, жыццё чалавечае, вымяраюцца іншым разам не працягласцю ў часе, а – зместам, насычанасцю падзеямі, уплывам як на злабадзёнасць, так і на мяркуемую перспектыву.**

**Той, хто хоць крыху адчувае дыханне часу найноўшага перыяду ў беларускай гісторыі (за пачатак якога прынята лічыць канец 80-х гадоў мінулага ст.) мусіць прызнаць, што беларуская нацыянальная журналістыка як прафэсія, што па вызначэнні мае грамадзянскую місію адказнасці за змест, інфармацыйны складнік і праўдзівасць кожнага свайго слова, уратавана найперш высілкамі БАЖ. У сваю чаргу гэтая журналістыка ратуе і самое грамадства. Бо – настойліва і ўпарта, цвёрда і непахісна падае сыгнал аб тым, што для прыстойнага жыцця і для будучага дзяцей недастаткова быць насельніцтвам на пэўнай тэрыторыі, а варта і неабходна як мага шчыльней і хутчэй станавіцца народам і краінай...**

**Улада, цяперашні рэжым больш за ўсё гэтага і баіцца. Таму вось і гэтыя віншавальныя і гордыя словы з нагоды юбілею БАЖ я разам з калегамі вымушаны гаварыць і падаваць не па БТ ці хоць бы ў якіх *“... Ведамасцях”* ці ў самой – бач ты! -- *“... праўде”*, а вось тут – у аб’яднаным спецвыпуску разовага выдання *“зБАЖына”.***

**Выпуску, складзенага з матэрыялаў некалькіх малых газэтак -- сапраўды незалежных, сапраўды сумленных, сапраўды шчырых – і таму прыхільна запатрабаваных прыстойнымі чытачамі ў розных рэгіёнах Магілёўшчыны. Сэнс і мэта аб’яднанага выдання, вядома ж, не ў тым, каб нагадаць самім сабе пра сваё ж існаванне і нават не ў тым, каб павіншаваць і падзякаваць БАЖ.**

**Сэнс і мэта даць *грамадству* (і выпадковым мінакам) інфармацыю пра тое, што вольнае друкаванае слова ў рэгіёне жыве. І яно гатовае ў любы момант вярнуцца ў нармальнае, а не ў цяперашняе “незарэгістраванае” існаванне, бо ўсё для гэтага ў наяўнасці – сумленныя калегі, бажаўская падтрымка, шматгадовы досвед змагання супраць ціску і пераследу. Гэтыя ціск і пераслед, зведаныя на сабе і сваіх сем’ях ці не кожным з незалежных журналістаў, не столькі наносіць урон нашым шэрагам і нашаму настрою (хаця каму даспадобы суды, штрафы, канфіскацыі... ), колькі загартоўваюць і нас, і нашых чытачоў.**

**Мы і надалей вытрымаем! Не пахіснемся і не адступім, не здрадзім. Сяброўскі білет БАЖ і дэвіз асацыяцыі *“Трымайся праўды!”* гуртуе і абдымае нас нібы лёс. Лёс калектыўны і лёс прыватны...**

**А ад лёсу бегаць не варта. Яго, як вядома, не пазбегчы і не абмінуць... усім.**

***Генадзь СУДНІК, сябра рады БАЖ***
**(адзін з 38 заснавальнікаў)**



# БАРЫС ВЫРВІЧ:
## "Складанасцей было шмат..."

Хутка спаўняецца 17 гадоў з таго часу, як выйшаў у свет першы нумар газеты "Паходня". Ён пабачыў свет напачатку верасня далёкага ўжо 1993 года, калі газета *"Паходня"* упершыню дайшла да чытача як газета дэмакратычных арганізацый Бялыніцкага раёна. Першым рэдактарам і выдаўцом газеты быў вядомы беларускі пісьменнік і краязнаўца Міхась Карпечанка, які ўклаў шмат сіл і таленту ў станаўленне газеты. На працягу 1993-1994 года пабачыла свет адзінаццаць нумароў выдання, яна выходзіла раз на месяц даволі рэгулярна, але затым для ўсёй незалежнай прэсы насталі цяжкія часы, і газеце "Паходня" давялося прыпыніць выхад.

Аднаўляецца выданне газеты ў студзені 2000 года, калі ў Бялыніцкім раёне адбываецца працэс кансалідацыі грамадскіх арганізацый дэмакратычнай скіраванасці і пачынае сваю працу Бялыніцкі раённы цэнтр грамадскіх арганізацый (з 15 лютага). Газета "Паходня" выходзіць раз на месяц як культурна-асветніцкі, інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь. Вялікую ролю ў адраджэнні газеты зноў жа адыграў Міхась Карпечанка, але на даволі "праблемнай" пасадзе рэдактара яго змяняе вядомы актывіст сацыял-дэмакратычнага руху мастак Генадзь Лапо. Газету ўдаецца некаторы час выдаваць рэгулярна, але ў верасні 2001 года з-за недахопу фінансавых сродкаў і вялікага ціску ўладаў яна перастала выходзіць у свет. Міхась Карпечанка засяроджваецца на працы "Бялыніцкага краязнаўчага таварыства" і выданні газеты мясцовых краязнаўцаў *"Бялыніцкая даўніна"*, Генадзь Лапо прысвячае сябе мастацкай творчасці.

Зноў атрымалася адрадзіць выпуск "Паходні" ужо мне, Барысу Вырвічу, дзякуючы падтрымцы Магілёўскай абласной Рады Руху БНФ "Адраджэнне" і асабіста яе тагачаснага старшыні Рыгора Кастусёва. У лістападзе 2005 года "Паходня" пачала выходзіць у свет ужо як грамадска - палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага раёна. Складанасцей было шмат, нерваў парвалі "любімыя" кіраўнікі і "пільныя" супрацоўнікі міліцыі і КДБ многа. Хапіла ўсяго. Давялося нават прыпыняць выданне газеты амаль на год з-за недахопу фінансавых сродкаў. У рэшце рэшт удалось выстаяць і працягнуць выпуск "Паходні". І вось ужо больш за тры гады наша грамадска-палітычнае выданне рэгулярна выходзіць у свет і знаходзіць свайго чытача ў Бялыніцкім раёне і суседніх раёнах нашай вобласці. Друкуем як свае мясцовыя матэрыялы, так і артыкулы іншых журналістаў з Магілёўскай вобласці, цікавыя матэрыялы з інтэрнэта, асабліва тыя, што датычацца нашага рэгіёна. Газета знайшла свайго чытача: рэгулярна тэлефануюць знаёмыя і незнаёмыя людзі, каб падзяліцца сваімі меркаваннямі наконт змешчаных у газеце артыкулаў, а ў Бялынічах сустрэчныя просяць новыя нумары "Паходні". Гэта сведчыць пра тое, што людзям не хапае аб'ектыўнай інфармацыі з незалежных крыніц, яны ўжо не вераць афіцыйнай прэсе, бо тое, пра што пішуць дзяржаўныя газеты, вельмі далёкае ад рэальнага жыцця. І таму "Паходня" будзе выходзіць і далей, як бы цяжка гэта калі-небудзь не было.

Дэмакратычныя актывісты Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў доўгі час марылі аб тым, што калі-небудзь у іх з'явіцца газета, якая будзе асвятляць падзеі, што адбываюцца тут. У мінулым годзе нарэшце гэтая мара ажыццявілася, і ў сакавіку чытачы змаглі ўзяць у рукі першы нумар незалежнага грамадска-палітычнага выдання *"Рэгіён"*. У газеце асноўная ўвага надаецца пытанням сучаснага развіцця нашага грамадства, але на яе старонках чытач можа знайсці і шэраг матэрыялаў гісторыка-краязнаўчага характару, якія непасрэдна звязаны з гісторыяй нашага куткa Магілёўшчыны.

Так склаўся лёс, што ад самага пачатку выдаваць газету "Рэгіён" давялося мне. Амаль усё сваё свядомае жыццё я пражыў у Бялыніцкім раёне, ў вёсцы Вялікая Машчаніца. Бацька мой родам са Шклоўшчыны, з вёскі Апалонаўка, дзяды раней жылі ў вёсцы Тубушкі Круглянскага раёна. І таму я вельмі ўсцешаны, што менавіта тут, адкуль мае карані, пачало выходзіць гэтае выданне, якое здолела знайсці свайго чытача і набыло пэўную папулярнасць.

*Барыс ВЫРВІЧ.*

№ 2 (113) **ПАХОДНЯ**
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА
студзень 2010 г.

У Бялынічах да журналіста прыйшоў участковы

Такія вось заробкі

У супрацоўнікаў Бялыніцкага райвыканкама праблем няма?

**Бялыніцкая ДАЎНІНА**
Краязнаўчая газета
№ 5 (27) Травень 2009

Бялыніцкі раён у другой палове 17 стагоддзя

Януш Радзівіл

**Рэгіён**
Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў
Чэрвень 2010 г.

Наш зямляк – кандыдат у прэзідэнты ад Партыі БНФ

Нацбанк Беларусі прадаст родную усадьбу Лукашенко

Даведка "Рэгіёна"

# МІКОЛА ЯЦКОЎ:
## "Мы — аднавяскоўцы!"



**Адкуль усё пайшло? У траўні 2006 года ўзнікла думка, што нам, тутэйшым, трэба мець сваё друкаванае выданне. Каб ведаць гісторыю нашых мясцін. Каб чуць апошнія навіны. Каб бачыць і разумець адзін аднаго... Бо мы, як ні круці, усё-ткі сям'я - жывём на адной зямлі і пад адным небам. Мы - аднавяскоўцы. І гэта - на усё жыццё. Таму І нарадзіўся *"Брылёўскі летапіс"*.**

**Было вялікае спадзяванне на дапамогу вяскоўцаў. Бо ляжаць у сямейных архівах цікавыя фотаздымкі, варушацца ў памяці нейкія ўспаміны - няхай бы гэтыя цаглінкі паклаліся ў падмурак нашага выдання... І дапамога такая з'явілася, бо людзі зразумелі, што памяць павінна заставацца. Што той, хто ведае мінулае, будзе больш упэўнена крочыць у будучыню. І "Брылёўскі летапіс" пачаў рупліва перагортваць свае старонкі.**

**З цягам часу адбыліся пэўныя змены: як на дрэве вырастаюць новыя галінкі і лісточкі, так і ад "Брылёўскага летапісу" адпачкаваліся новыя выданні.**

**У верасні 2006 года з'явіўся бюлетэнь *"Брылёўская мінуўшчына"*. У ім гаворка пайшла выключна пра гістарычнае мінулае нашых вёсак і наваколля. І новае выданне пачало агучваць старонкі ўспамінаў, абтрасаць пыл са старажытных фаліянтаў, зазіраць у скарбніцы архіваў, у тым ліку і хатніх, - і ўчарашні дзень імкліва пачаў набліжацца да нас... Мы ж павінны ведаць мінулае: калі адчуваеш моц сваіх каранёў, што ўраслі ў родную зямлю, то аніякія вятры і сухавеі ўжо не палохаюць. І жыццёвыя шляхі робяцца нашмат лягчэйшымі.**

**Вірлівае брылёўскае быццё, як і жыццё ўсёй нашай краіны, так ці інакш закранае пытанні грамадскіх суадносінаў. Па-іншаму, усё гэта называецца адным простым словам - *"палітыка"*. Разнастайныя выбарчыя кампаніі, праца нашага сельскага Савета, стасункі з грамадскімі арганізацыямі па-за межамі нашага рэгіёна, сустрэчы з вядомымі дзеячамі беларускай сучаснасці - усё гэта і ёсць палітыка ў розных сваіх праявах. І ўзнікла думка занатоўваць гэтыя старонкі брылёўскай рэчаіснасці. Таму ў студзені 2007 года ў сям'ю нашых вясковых выданняў увайшоў новы інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь *"Брылёўскія даляглядыˮ*, які пачаў зацікаўлена ўглядацца ў зменлівую далечыню навакольнага беларускага жыцця.**

**...Аднойчы вядомы на ўсю краіну старшыня калгаса "Советская Белоруссия" Брэсцкай вобласці Уладзімір Лявонцьевіч Бядуля, стаміўшыся змагацца са сваімі мясцовымі п'яніцамі, пабудаваў у калгасе храм: *"Можа, бацюшка дапаможа вырашыць гэтае амаль невырашальнае пытанне"...* І на самой справе, колькасць выпівох там значна зменшылася.**

**Чаму так здарылася? Чаму зварот да веры і хрысціянскіх каштоўнасцей дапамагае перамагаць зло? З якіх каранёў сілкуецца гэтая светлая сіла?..**

**З гэтых думак і распачалося ў студзені 2010 года наша новае выданне *"Брылёўскі вернік"*, дзе рэлігійная накіраванасць празначана дамінуючай, а прадстаўнікі існуючых у нашай мясцовасці канфесій (праваслаўныя і каталікі) пачалі атрымліваць неабходную інфармацыю і знаходзіць адказы на розныя пытанні гісторыі і сучаснасці. Мы ўпэўнены, што гэта будзе дапамагаць усім нам берагчы ў сэрцах цеплыню веры, надзеі і любові.**

**І хочацца, каб дружная сям'я брылёўскіх выданняў заўсёды чула ад сваіх чытачоў: *"Так трымаць!"***

***Мікола ЯЦКОЎ.***















# МІКАЛАЙ ЦАРКОЎ:

# "Людзі хочуць ведаць праўду!"






ПРИЧИНА — БЕЗОТВЕТСТВЕННОСТЬ!

Борис ЗЫКОВ



**У Чэрыкаўскім раёне група дэмакратычнай інтэлігенцыі заўсёды ўважліва назірала за дзеяннямі мясцовай улады. У верасні 1990 года гэтыя ж дэмакратычна настроеныя людзі заснавалі незалежную газэту *"Сельские новости"*. Яе першым рэдактарам быў школьны выкладчык літаратуры Васіль Іванавіч Старавойтаў. Газэта – такія часы былі – друкавалася на настольнай друкарскай машынцы накладам у 200-250 асобнікаў і распаўсюджвалася ўласнымі сіламі і пры ўдзеле актывістаў па ўсім раёне. Крытычныя рэчы пра сябе нярэдка чыталі ў *"Сельских новостях"* чыноўнікі рознага ўзроўню, дабываючы газэту, як гаворыцца, па сваіх каналах. Ды мы і самі не хавалі выданне ні ад каго!..**

**Пазней, да сярэдзіны 1995 года, чэрыкаўская старонка матэрыялаў друкавалася ў абласной дэмакратычнай газэце "Ратуша", а з 2004 года мы пачалі стала супрацоўнічаць з крычаўскім "Вольным горадам". На цяперашнюю самастойнасць, што дазваляе нам выдаваць сённяшнія *"Чэрыкаўскія навіны"* мы выйшлі ў 2008 годзе.**

**У нашым невялікім горадзе, дзе кожны кожнаму, як гаворыцца, брат альбо сват, мы, супрацоўнікі рэдакцыі незалежнай газэты і яе актывісты – пад пільным наглядам як грамадзянаў, так і ўладаў. Гэта можна сказаць і пра журналістаў афіцыйнай раёнкі. Аднак нам і ўсім цікава ведаць: каму больш давяраюць людзі – нам ці "раёншчыкам?"... Іхную газэту, што не з'яўляецца сакрэтам, улада прымусова навязвае чытачам. Нашу чытаюць па закліку сэрцаў. А прачытаўшы – перадаюць іншаму, бо ў кожным нумары (самі мы не заўсёды задаволены тым, што робім) людзі знаходзяць навіны і паведамленні, якія ўлада (і раённыя журналісты тут з ёю заадно) хацела б ад людзей утоіць, схаваць. А людзі хочуць ведаць праўду!**

**Мы прывыклі і вельмі даражым тым, што да нас звяртаюцца па дапамогу як да апошняй інстанцыі, калі ўжо чалавек боты саб'е па кабінетах і парогах афіцыйных устаноў. Тады мы бярэмся за справу, каб прымусіць чыноўнікаў рабіць тое, дзеля чаго яны пастаўлены – служыць людзям. Нярэдка гэта ўдаецца, хаця заўсёды нялёгка. Нас не хочуць бачыць у тых жа кабінетах, і тых жа ўстановах. Чыноўнікі, такое ўражанне іншым разам, што хацелі б і на вуліцы не сустракацца з намі, пераходзяць на іншы бок дарогі. Аднак мы не такія дрыготкія, як яны думаюць – мы дамагаемся праўды і справядлівасці, бо гэтага ад нас чакаюць чытачы.**

**А калі дапамога патрабуецца калегам па журналісцкаму цэху, то мы заўсёды ідзем насустрач. І вельмі рады, што ў суседнім Краснапольскім раёне праз нашы агульныя намаганні не згасае агеньчык баявітага бюлетэня *"За вольную спадчыну"*, на чале якога бяссменна стаіць вядомы ў Беларусі змагар за праўду Сямён Сямёнавіч Панізоўцаў.**



С.С.Панізоўцаў




Чему завидовать?

Иван АЛЕКСАНДРОВ

ХВАЛОЮ СЫТ НЕ БУДЕШЬ...

Николай ЦАРЬКОВ




**Канешне, мы марым пра той час, калі нашая журналісцкая функцыя будзе ў асноўным інфармацыйнай. Аднак пакуль такога няма, будзем самі жыць у гушчыні жыцця і будзем змагарамі ад імя людзей з сыстэмай, якая людзей не паважае. Аж пакуль не пераможам яе!**

*Мікалай ЦАРКОЎ,*
*адказны за выпуск бюлетэня "Чэрыкаўскія навіны",*
*заслужаны настаўнік школ РСФСР.*

# ІГАР КІРЫН:

## "Змагаемся і будзем змагацца!"



**Гэтае незалежнае выданне працягнула традыцыі нашай першай вольнай газэты *"Панорама"*, якая выходзіла ў 1992-1994 гадах. Тады газэту выдаваў раённы Камітэт самакіравання, што быў абраны жыхарамі райцэнтра *"для барацьбы з злоўжываннямі мясцовага чынавенства"*. Першы нумар быў набраны на друкарскай настольнай машынцы і памножаны на ксэраксе. Усяго такіх самастойных нумароў выйшла 6. Іх рэдагаваў Аляксей Караленя. Газэта крытыкавала начальства і чыноўнікаў, распавядала пра тое, што адбывалася ў тыя "гарачыя гады" у краіне і свеце. Пэўны час нумары *"Панорамы"* дадаваліся да абласной дэмакратычнай газэты "Ратуша". А з 1998 года Магілёўская вядомая асацыяцыя "Кола Сяброў" запачаткавала *"Глускую панараму"*. Фармат яе быў А3, старонак было чатыры, наклад 299 асобнікаў. Камітэт самакіравання даручыў рэдагаваць газэту мне, што я з задавальннем і ахвотай раблю ўвесь гэты час.**

**На жаль, пэўны перыяд ў выданні газэты быў перапынак. Аднавіць на пастаяннай аснове яе ўдалося ў красавіку 2007 года. З таго часу і дасёння газэта выдаецца штомесяц. У афармленні выдання да тэкстаў дадаліся фотаілюстрацыі, што робіць газэту больш прыцягальнай. Знайсці нашы нумары можна на вэбсайце па адрасу GLUSK ONLINE http://www.gluskonline.net.**

**Шмат увагі газэта аддае пытанням і праблемам правоў чалавека, за што і рэдактар, і аўтары неаднойчы траплялі пад пераслед і націск.**



№ 25-26 (77-78)
Ноябрь 2009 г.

Глуская ПАНОРАМА

НОВОСТРОЙКИ ГЛУСКА

Заканчивается строительство 60-квартирного дома на улице Гагарина, начатое в апреле нынешнего года для жилищно-строительного кооператива «Глусский ветерок-2». Стоимость объекта – 5 980 905 691 рубль. Заказчиком выступает КУП «Капитальное строительство Глусского района». Генподрядчик – ГУКДСП «Глусская ПМК № 249». 5 этажей, 3 подъезда. Стоимость квартиры в доме составит в среднем 100 миллионов рублей. При существующих ценах однокомнатная квартира обойдется примерно в 87 миллионов рублей, двухкомнатная – в 126 миллионов рублей, трехкомнатная – в 164 миллиона рублей. Оплатить расходы на строительство помогают льготные банковские кредиты. В очереди на жилье в райцентре стоит около четырехсот человек. Ввод в строй аналогичного дома, возведенного рядом в прошлом году, не уменьшил количество очередников. Два года назад в очереди было более трехсот человек. При этом цены на жилье за это время увеличились примерно в полтора раза. Квадратный метр жилплощади в таком доме будет стоит около двух миллионов рублей. Окончание строительства запланировано на декабрь.

Летом начато строительство 40-квартирного дома на улице Кирова. Заказчик - жилищно-строительный кооператив «Глусский домострой». Стоимость объекта – 3 245 380 991 рубль. Генподрядчик – УКРСП «Ремстрой». Сдать дом планируется в апреле следующего года. Еще в 2005 году на этом месте был учебно-производственный комбинат. А рядом раньше находился районный Дом пионеров и школьников. А еще раньше здесь был детский дом, около которого стоял памятник Сталину.

Осенью началось строительство еще одного жилого дома на улице Кирова. На выезде из Глуска сразу за средней школой № 1 заложен 80-квартирный дом. Возможно, строительство трех новых домов уменьшит количество нуждающихся в жилье в Глуске.

*Игорь Кирин. Фото автора.*

*Строительство 60-квартирного дома на улице Гагарина. Май 2009 г.*

*Строительство 60-квартирного дома на улице Гагарина. Май 2009 г.*

Объект: «60 квартирный жилой дом ЖСК «Глусский ветерок-2»

---

**З-за таго, што Ігар Кірын вядомы ў раёне барацьбіт за справядлівасць, ён не аднойчы і, зразумела, незаконна губляў працу, заставаўся без сродкаў да існавання. Аднак пахіснуць яго ў высокіх патрыятычных і агульначалавечых перакананнях нікому не ўдалося. –**
***ад рэд. "зБАЖыны".***

---

**Рэдакцыя застаецца непахіснай у сваім абавязку перад чытачамі – даводзіць да людзей сутнасць і змест міжнародных і беларускіх, занатаваных, на жаль, толькі на паперы, дакумэнтаў, актаў і палажэнняў, якія павінны служыць чалавеку і дазваляць яму пачуваць сябе паважанай і вольнай істотай. На практыцы гэта не так, а таму мы змагаемся і будзем змагацца за тое, каб словы і дзеянні ўлады не разыходзіліся з іхнімі рэальнымі справамі і нашым жыццём.**

***Ігар КІРЫН.***

---

# ПЁТР МІГУРСКІ:

## "Кожнае напісанае слова – гэта вестка для патомкаў"



**Старажытныя егіпцяне наносілі пісьмёны на бясконцыя рулоны папіруса, лічачы гэтыя пасланні болей вечнымі, чым піраміды. Шумеры выкарыстоўвалі для гэтай мэты гліняныя таблічкі, якія аказаліся больш трывалымі, чым палацы Вавілона.**

**Кожнае напісаннае слова – гэта вестка для патомкаў, гэта, лічы што, матэрыяльнае пасланне ў будучыню, бо пераацаніць моц слова вельмі цяжка. Але ўсё ж важней давядзенне праўдзівай інфармацыі да сучаснікаў, фармаванне ў іх цэласнага ўспрымання рэчаіснасці. Менавіта сродкі масавай інфармацыі з'яўляюцца тым інструментам, з дапамогай якога рэалізуюцца дзяржаўныя і асобныя праекты.**

**Мясцовы друк – гэта, бадай, грамадзянская перадавая ў барацьбе за праўду, за сапраўднае прадвызначэнне дзяржавы, якое ў пастаянным павышэнні дабрабыту ўсіх грамадзян, а не асобных набліжаных і адданых. Якія, дарэчы, першыя свайго гаспадара і прададуць – гісторыя большасці краін гэта пацвярджае.**

**Цікавасць грамадзян да незалежнай прэсы (а тыражу заўсёды не хапае) прадвызначана дзеяннямі ўладаў па прыхарошванню рэчаіснасці, прыпіскамі, а тое і -- прамой хлуснёй. Але яшчэ мудры Федр гаварыў: *"Прыхільнасць уводзіць у зман"*. І такія дзеянні рознага ўзроўню кіраўніцтва якраз і прыводзяць да страты даверу да ўсіх дзеючых афіцыйных асобаў, уключна і тых, якія да падобнага стаіюць няхай сабе і малое дачыненне.**



Мясцовы друк дэмакратычнага характару – гэта асобная справа. У гэтым шэрагу *“Шклоўскія навіны”*, якія доўга рэдагаваў Алесь Шчарбак, і цяперашняе выданне **“Шклоў інфо”**, мэта якога -- падача пазнавальна-аналітычнай інфармацыі мясцовым жыхарам. Мы імкнемся да забеспячэння інтэлектуальнага складніка ў матэрыялах, да актуальнасці рэпартажаў і навін. І ні ў якім разе не ставім сваёй мэтай хоць кагосьці асабіста пакрыўдзіць, а тым больш – абразіць. Мы даследуем справы і дзеянні, а адзнаку іх пакідаем на чытачоў. Сапраўдны журналіст, на наша меркаванне, птушка вольная і дзе б ён ні працаваў, ён заўсёды “адпомсціць” за свой прыгнёт, за навязванне думкі, за страчаны час на абслугоўванне ўлады і чыноў...

А.Шчарбак

*Пётр МІГУРСКІ,*
*адказны за выпуск пазнавальна-аналітычнай газеты “Шклоў інфо”.*

# СЯРЖУК АРЖАНЦАЎ:

## "Наперадзе яшчэ шмат работы"

Самы першы нумар грамадска-палітычнага бюлетэня *“Клімавіцкая Інфа-Панарама”* пазначаны студзенем 2008 г. Менавіта ад гэтай даты пачынаецца адлік выдання незалежнай прэсы Клімаўшчыны. Пасля таго прайшло больш за два гады, выдадзена амаль 60 нумароў “Панарамы”. Як кажуць у такіх выпадках, час падводзіць вынікі.

Дапамог распачаць выданне бюлетэня крычаўскі журналіст і грамадскі дзеяч Мікалай Гердзій. Даволі значны перыяд ён рэдагаваў газету, рыхтаваў для яе матэрыялы і розную фактычную інфармацыю. Сімвалічна, што ў рэдакцыйным артыкуле, які адчыняў першы нумар, спадар Гердзій выказваў надзею на тое, што “Клімавіцкая Інфа-Панарама” будзе запатрабавана шырокім колам чытачоў. Сёння можна ўпэўнена казаць пра тое, што гэтыя спадзяванні цалкам спраўдзіліся.

Зараз незалежны дэмакратычны бюлетэнь не проста вядомы сярод жыхароў раёна, але ўжо мае сталую рэпутацыю выдання, якое піша праўду. На старонках “Панарамы” неаднаразова распавядалася пра дзейнасць райвыканкама, асвятляліся шматлікія сацыяльныя і эканамічныя праблемы, распавядалася пра малавядомыя падрабязнасці з клімавіцкай гісторыі. Паказальна, што нават супрацоўнікі аддзела ідэалогіі райвыканкама выказалі жаданне чытаць кожны нумар газеты, каб ведаць аб тых падзеях, пра якія не паведамляе афіцыйная раёнка.

Зразумела, наперадзе яшчэ шмат працы. Напрыклад, вельмі пажадана, каб у выдання было болей аўтараў, каб беларускамоўныя матэрыялы пераважалі над рускамоўнымі. Але разам з тым мы бачым, што “Клімавіцкая Інфа-Панарама” нумар ад нумару становіцца лепей, набіраецца сталасці, робіць усё больш важкі ўнёсак у развіццё грамадскай свядомасці нашага рэгіёна. І гэта дазваляе верыць у перспектывы і будучыню газеты.

М.Гердзій

*Сяржук АРЖАНЦАЎ,*
*адказны за выпуск грамадска-палітычнага бюлетэня “Клімавіцкая Інфа-Панарама”*

# СЯРГЕЙ НЯРОЎНЫ:

## "Мы прайшлі экспертызу часам"



Для таго, каб распавесці аб нашай газэце, трэба распавесці аб нашым часе... *"Вольны горад"* узнік як водгук на на пераломныя 90-ыя гады, вытрымаў выпрабаванне аўтарытарызмам і бяспраўем "дэмакратыі па-беларуску". І вось ужо больш за 10 гадоў газэта носіць сваё гордае імя. За гэты час грамадства і краіна змяніліся да непазнавальнасці, і разам з імі ўсе грамадскія трасфармацыі перажыло і нашае выданне. Наш рэдакцыйны калектыў і згуртаваныя вакол яго паплечнікі і сябры ніколі не адзялялі сябе ад рэалій нашай рэчаіснасці. Стрыжнем рэдакцыйнай палітыкі, калі ґаварыць высокімі словамі, было і застаецца адкрытае і асэнсаванае імкненне ўплываць на падзеі, а не толькі адлюстроўваць іх. Выдаўца газэты Ўладзімер Кудраўцаў, нашы рэдакцыйныя аўтары Мікалай Гердзій, Мікалай Царкоў, Сямён Панізоўцаў, Сяргей Аржанцаў, Валеры Бысаў і я, як рэдактар, трывала трымаемся гэтай пазыцыі і адстойваем яе на практыцы, праз публікацыі. Менавіта таму мы маем поўнае права сказаць: распавесці пра "Вольны горад" – гэта значыць распавесці аб часе, у якім жывем.

А пачалося ўсё у 1997 годзе, калі крычаўская гарадская асацыяцыя "Гуманітарная ініцыятыва" прыняла рашэнне заснаваць і распачаць выданне незалежнага грамадска-палітычнага штотыднёвіка. Першы нумар з'явіўся на свет 20 красавіка 1998 года. Зараз мы налічваем больш за 350 нумараў "Вольнага горада". Шматразовыя спробы рэдакцыі атрымаць афіцыйную рэгістрацыю не мелі поспеху, што для нас і нашых чытачоў, калі сказаць шчыра, ніколькі не дзіўна. Дэфармаваная ўладай грамадская і інфармацыйная прастора ў нашай краіне не мае на мэце існаваннне незалежных СМІ.

А што тычыцца канкрэтна "Вольнага горада", то ўлада выпрабавала ў змаганні з намі ўвесь свой рэпрэсіўны і сілавы арсенал. Пракуроры, міліцыя, суддзі, АМАП, КДБ, падаткавыя службы ... – усе яны па чарзе альбо разам наднойчы спрабавалі заглушыць і задушыць наша вольнае слова, наш голас праўды і свабоды. За час свайго існавання газэта перажыла столькі канфіскацый, што райаддзел КДБ можа адчыніць музэй ці бібліятэку "Вольнага горада". Падтрымку са свайго боку ўлада атрымлівала ад маргінальных фашыстовых элементаў, якія закідвалі нас папераджальнымі паштоўкамі і прамымі пагрозамі. Вычарпаўшы свае магчымасці прамога ўціску і пераследу, улада перайшла ад штрафаў і арыштаў да абразаў і няпраўды ў дачыненні да нас, супрацоўнікаў "Вольнага горада", на старонках паслухмянай афіцыйнай раённай газэты. Непрыкрытая хлусня і абразы, аднак, не былі спынены праз суд, куды мы звярталіся. Што ж... мы верым, што застаецца суд часу, суд гісторыі і суд сумлення -- калі яно, канешне, ёсць у прыслужлівых "казачнікаў", што называюць сябе журналістамі. Як гаворыцца, рукапісы не гараць, надрукаванае ў газэце застаецца разам з подпісамі аўтараў і мае ўсе шансы быць ацэненым яшчэ і пры іхным жыцці...

У працяг тэмы варта спыніцца яшчэ вось на чым. У Крычаве заўважылі, што кожны новы начальнік РАЎС пачынае службу з "наезда" на наша выданне. Склалася, калі так можна сказаць, цэлая антыправавая традыцыя ў дачыненні да нас. Апошні кіраўнік мясцовай міліцыі нядаўна распарадзіўся затрымаць адзін з нумараў "Вольнага горада", каб не даць яму магчымасці трапіць да чытачоў. Міліцыянеры, выкліканыя намі ў гэтай сувязі ў суд, блыталіся ў сваіх паказаннях і няўцямна даводзілі, што канфіскаваны нумар мусіць прайсці праз экспертызу свайго "антыдзяржаўнага зместу". Як гэта не дзіўна, суд з гэтым пагадзіўся. Ясна аднак, што такое можа працягвацца толькі пакуль на двары пануе цяперашні дзяржаўны рэжым на чале з А.Лукашэнкам.

Што тычыцца праверкі нашага зместу, то наш "Вольны горад", як лічаць сапраўдныя нашы калегі ў Мінску, Магілёве і нават за мяжой, а галоўнае – нашы чытачы, даўно і паспяхова прайшоў і штодня праходзіць самую строгую і вартую таго экспертызу. Экспертызу часам.

*Сяргей НЯРОЎНЫ.*



ОБРАТНЫЙ ОТСЧЕТ

стр 2-3.

Крычаўская гарадская грамадска-палітычная газета

**Вольны горад**

29 жніўня 2010

Нумар 27 (358) Выдаецца з красавіка 1998 года

*Прислали из Могилёва*

*С 23 августа этого года ВРИО директора Кричевского района газоснабжения работает Виталий Мажинский. До этого он работал в аппарате Могилёвского областного управления газового хозяйства.*

*«ВГ» и милиция выяснят отношения 31 августа*

*Судья Антонина Качанова назначила слушанье дела по иску издателя «ВГ» Владимира Кудрявцева о возмещении морального вреда к Кричевскому РОВД на 31 августа. Это случилось после того, как В. Кудрявцев устранил «недостатки» первоначального заявления согласно определению судьи. По мнению издателя «ВГ», суд искусственно затянул начало разбирательства.*

*Будут судить в октябре...*

*Только в начале октября этого года суд Кричевского района в лице судьи Оксаны Ратниковой намерен рассмотреть иск Кричевского райисполкома о выселении из служебной квартиры бывшего заместителя председателя райисполкома Леонида Скоцкого. Так что, похоже, начальнику Кричевского РОВД Вадиму Ковалёву придётся подождать своего новоселья как минимум пару месяцев.*

ГЛАВНОЕ — «ПРОКУКАРЕКАТЬ»...

Николай ГЕРДИЙ

Любимое дело нынешней государственной идеологии, в том числе и прессы, как говорят в народе, — «сделать хорошую мину при плохой игре». Образчик такой мины 13 августа этого года на страницах газеты «Кричевская жизнь» («КЖ») продемонстрировала её редактор Т. Ивкина, подготовив интервью с громким названием «Перспективное будущее» с председателем СПК «Звезда-агро» Святославом Самоделовым. По мнению Т. Ивкиной, «курс руководства СПК на интенсификацию производственных процессов в живот-... пользы от повсеместно возведённых в агрогородках и вокруг животноводческих ферм дорогущих разноцветных бетонных заборов. В том же СПК «Звезда-агро» такой забор поставили возле комплекса в Ботвиновке. Он совершенно не функционален, а розовый цвет на фоне навозных куч... убивает морально.

К сожалению, в большинстве случаев огромные вложения на селе не ведут к адекватным, и, тем более, высоким результатам. Это в полной мере относится и к СПК «Звезда-агро». Наши читатели наверное помнят, что в прошлом году в хозяйстве деревни Зайцева Слобода...

На контроле власти

Петушиные игры

***Благоустройство привокзальной площади. Да, есть такая проблема. Она известна районной исполнительной власти, которая приняла все необходимые меры, чтобы ее разрешить. Но давайте все по порядку.***

Еще в партийно-советские времена, когда на этой площади производились кое-какие работы, при обустройстве твердого покрытия не сделали ливневой канализации. Отсюда и все беды: весной и осе-...

...информационными группами, во время прямых линий, прямых эфиров, приемов граждан и т.д., не остаются без внимания. Они находятся на контроле исполнительной власти и по мере возможности разрешаются. К примеру, по просьбе жителей привокзального района проведено в прошлом году благоустройство... жители города были проинформированы об этом через средства массовой информации.

Зная, что вопрос благоустройства привокзальной площади в этом году будет решен положительно, как, впрочем, и большинство обращений граждан в районный исполнительный комитет, нашлись отдельные «дельцы от...



# ЭДУАРД БРОКАРАЎ:

## "Ад "лістка"... да газеты"



**Першы нумар *"УзГорка"* пабачыў свет яшчэ напачатку 2002 г. Гэта быў "лісток", які перыядычна выходзіў у свет высілкамі сябраў грамадскага клюба з аднайменнай назвай. Аднак ужо тады інфармацыйная перавага ў ім аддавалася мясцовым падзеям, каб стварыць хоць нейкую супрацьвагу стэрыльнаму зместу афіцыйнай раёнкі і падобным газетам. Гэта захоўваем і цяпер, на новым вітку нашай "УзГоркавай" гісторыі.**



УзГорак

23 ліпеня 2009 г. №8

Новости из Горок, Дрибина и Мстиславля

Падпісныя індэксы "Белпошты" 63800, 638002

Кошт свабодны

НАПОЛНИ СЕБЯ ЗДОРОВЬЕМ!

Телефон в Горках: 8 02233 5 33 98

Сокровище из недр земли белорусской

Минеральная лечебно-столовая вода "Горецкая"

Источник полноценной и здоровой жизни

Спрашивайте в магазинах

УНН 700423316

### Отдохнуть и заработать

*Имеют возможность на летних каникулах горецкие подростки*

по 30 июня, она составила по 120 тысяч рублей. Возраст тех, кто пришёл сюда работать – от 14 до студенческого.

А вот что говорят сами юные мастерицы, которых вы видите на снимке.

Таня, ученица гимназии:

- Меня сюда пригласила подруга, предложила вместе поработать. До этого шить умела в домашних условиях, но игрушки шью впервые. Работа нравится, здесь не скучно, поэтому хожу с интере-

Пятая колонка

**Ожидается конкурс**

Подача документов в белорусские ВУЗы идёт полным ходом. В среду довелось поинтересоваться, как же в этом году обстоят дела в Белорусской сельхозакадемии. Ведь не забыт ещё прошлый год, когда конкурс (за исключением очень немногих специальностей) в некогда престижный ВУЗ был фактически равен нулю. С той поры в БГСХА сменилось руководство, которое, судя по всему, намерено поднять и уровень здешнего образова-

**Амаль 5 год газета выходзіла ад выпадку да выпадку, а часамі – увогуле перапынялася. Некалькі за гэты час спробаў яе афіцыйнай рэгістрацыі скончаліся нічым. Аднак і без гэтага напрыканцы 2007 года "УзГорак" стаў трывалым штотыднёвікам. І толькі 24 красавіка 2009 г. мы ўсё ж атрымалі рэгістрацыйнае пасведчаньне за №311. Нельга сказаць, што цяпер у нас ўсё ідэальна – мясцовы і абласны "Саюздрук" адмаўляюць нам у дамове на распаўсюд праз іхную сетку. Але мы патрапілі ў каталог "Белпошты" на падпіску, і "УзГорак – а цяпер гэта сапраўды газета -- існуе трывала і мае сваіх адданых чытачоў.**

**Не магу не падзякаваць не толькі ім, але і тым, хто разам са мной робіць "УзГорак". Гэта Андрэй Юркоў, Ільля Заранок, Галіна Будная, Міхаіл Аўчыннікаў, Таццяна Кіраенкава, Ігар Пажарыцкі, Уладзімір Ліўшыц, Алесь Каданчык, Алена Кагаева. На вялікі жаль, мы страцілі Дзям'яна Франкоўскага, якому абавязаны дызайнам, і Уладзіміра Пятрова, свайго спартовага рэпарцёра і аналітыка.**

**Хапае працы і мне, рэдактару газеты. Але вось часу на ўласную творчасць практычна не застаецца. Ды і дзе тут возьмешся за асадку, калі ў мінулую суботу, напрыклад, падчас традыцыйнага і прынцыповага футбольнага матча паміж Горкамі ды Чавусамі арбітры не "заўважылі" чысты гол. А ўсё таму, што правільна заляцеўшы ў вароты, мяч выслізнуў з іх ... праз дзірку ў сетцы. Нашы чытачы ўжо пытаюцца: а ці сфатаграфаваў хто тую дзірку?.. Хоць і нясціпла гучыць, але адказваю – а як жа!**

*Эдуард БРОКАРАЎ.*



# Дзе шукаць інфармацыйныя зярняткі

**Магілёўскія бажаўцы, актывісты вольнага слова, незалежныя журналісты шмат часу толькі тым і займаюцца, што вышукваюць па ўстановах у сваіх рэгіёнах патрэбную чытачам сваіх газэткаў інфармацыю. Для трымання і іх, і самых сябе ў інфармацыйна-дасведчанай форме і для лепшага разумення сытуацыі ў краіне і свеце мы і самі карыстаемся рознымі іншымі інфармкрыніцамі. Сярод іх найбольш папулярныя крыніцы (што цалкам адпавядае і навукова-тэхнічнаму прагрэсу як такому) -- сеціўныя інтэрнэт-парталы. Яны даступныя ўсім (калі ўлада перыядычна не ўзламвае гэтыя сайты альбо не "фільтруе" іх, што безумоўна пачасціцца ў выбарчую кампанію)...**

**Ніжэй мы падаем сеціўныя адрасы сайтаў, за якія мы, як гаворыцца, упэўненыя. Менавіта на іхных віртуальных старонках вы знойдзеце тое, што будзе вам цікава і карысна, і што дасць дадатковы штуршок для роздуму і аналізу...**

**Але не "патаніце" у сеціве. Асцерагайцеся занадта палітызаваных сайтаў. Трымайцеся на адлегласці ад навязлівых палітычных аглядальнікаў і іхных шматслоўных каментароў. І асабліва – выконвайце, калі вам дорага ўласнае здароўе, мудрую параду булгакаўскага прафэсара Прэабражэнскага: *"Калі ласка, не чытайце савецкіх газет!"*... А гэтага дабра ў нас, як вядома, яшчэ колькі хочаце... Збажынкі праўды і зярняткі шчырасці шукайце па іншых крыніцах...** *Г.Суднік.*

**www.baj.by**
**www.svaboda.org**
**www.svabodaby.net**
**www.belapan.by**
**www.belsat.eu**



*"ЗБАЖЫНА"*
Аб'яднаны спецыяльны выпуск незалежных дэмакратычных выданняў Магілёўшчыны
Адказныя за выпуск - Генадзь Вітольдавіч СУДНІК, Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ

Выданне здзейснена ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі"
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: brylibelarus@gmail.com

Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *5.09.2010. 22.00.*
**Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.**